# БЮЛЕТЭНЬ

## Соймавага Клюбу „Белар. Сялянска-Работніцкая Грамада“

№ 16 | Вільня, субота 4-га сьнежня 1926 г. | № 16


## Прамова

### пасла Б. Тарашкевіча сказаная на паседжаньні Сойму 16. XI. 1926 г.

Паслухайце, паны. Вось ужо больш за два месяцы, як па польскай буржуазнай прэсе лётаюць трывожныя чуткі аб тым, што на Заходняй Беларусі падымаюцца нейкія страшэнныя „бальшавіцкія“ Грамады: зямля дрыжыць ад іхняй сілы, беларускія хмуры зацьмілі сонца панскага панаваньня.

„Гурткі — бальшавіцкае наступленьне“ — стацьця ў аднэй газэце, „Падгатоўка да беларускага паўстаньня“ — стацьця ў другой газэце, і так, што ні дзень. то стацьця за стацьцёй ды ўсё ў такім родзе, процiў Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, процiў нашае арганізацыі, процiў беларускай работы наагул.

Прыпісуюцца нам самыя дзікія і няствораныя рэчы: бачце, мы ня толькі заргaнізавалі ўсе паветы, усе гміны і вёскі, але вось уже нейкія „таемныя сілы“ параздавалі нам аружжа ды йшчэ якое, — ня толькі бомбы, вінтоўкі і рэварвэры, але кулямёты і... цяжкую артылерыю. А ўлада — бачыце — гэтага не дагледзіла, дык таму крычаць гвалт віленскія панскія газэты і цісвуць на Варшаву на ўрад, каб зачыніць Сялянска Работніцкую Грамаду і спараліжаваць (спалярушыць) беларускую работу.

Урэшце дайшло да таго, што „Зьвёнзак Людова-Нарадовы (папросту эндэкі) ўносяць у Сойм прапазыцыю, дамагаючыся каб урад закрыў Грамаду.

Вось сколькі гвалту і крыку паднялося процi Грамады за самы апошні час. Цікава тут адзначыць, што гэты варожы вый панскіх газэтаў пачаўся як-раз пасьля ведамага зьезду ваяводаў у Вільні.

Што тут за прычына і сколькі праўды ва ўсей гэтай панскай трывозе?

Праўда, — што ў працягу апошняга паўгоду ў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадзе саргaнізаваліся найшырэйшыя масы сялян і работнікаў і такой вялізарнай легальнай арганізацыі йшчэ ня было дагэтуль на землях Заходняе Беларусі. Праўда. што за гэту арганізацыю дзе ўвесь народ. Праўда, што беларускія масы праяўляюць надзвычайную актыўнасьць ува ўсіх напрамках грамадзкага жыцьця — нацыянальным і сацыяльным. Рух гэты шукаў легальных арганізацыйных формаў і нашоў іх, лепш кажучы, стварыў у нашай Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадзе. Народ уласнымі рукамі хоча будаваць сваё грамадзкае жыцьцё і ўласнымі сіламі бараніць сваіх правоў. Гэта ўсё праўда і толькі гэта, а выдумкі розных „рэчазнаўцаў крэсовых“ (паказываючы на пасла Зьвежынскага, рэдактара эндэцкага „Дзеньніка Віленскага“), прыпісываньне нам аружнага паўстаньня, ды йшчэ так, што мы вось ужо гатовы перайсьці ў наступленьне, прыпісываньне нам, што мы карыстаемся індывідуальным (асабістым) тэрорам, — гэта ўсё ня толькі злосная хлусьня, гэта палітычны шантаж і правакацыя.

Вы крычыцё, панове, аб паўстаньні, аб тэроры Грамады, а запраўды і больш за ўсё страшыць вас, што народ збудзіўся да грамадзкага жыцьця, паказаў сваю актыўнасьць, што праявілася масовасьць нашага руху. Пужаюць вас іменна нашыя легальныя спосабы барацьбы, легальныя — але масавыя, легальныя — але бяз угоды і заўзятыя.

Ну й моцна-ж вы збаяліся народу. Бо што такое Грамада? Вы абвіняеце Грамаду ў бальшавізьме. Добра. Але Грамада толькі настолькі „бальшавізуе“ наскoлькі „бальшавізуюць“ найшырэйшыя народныя масы. Грамада настолькі бальшавіцкая, наскoлькі вы называеце бальшавізмам кожнае дамаганьне зямлі для сялян, абарону правоў работніка, кожнае дамаганьне роднай школы, людзкіх а ня барбарскіх парадкаў, свабоды і культуры для працоўнага народу, улады для сялян і работнікаў. Праграма Грамады — гэта народная праграма. Узята яна з палітычнай жыцьцёвай практыкі нашага працоўнага народу. Нічога ў ёй няма, чаго-б не жадаў сам народ — селянін, работнік, працоўны інтэлігэнт. А народ навучыўся жадаць, ня толькі жадаць, але й думаць палітычна, проста і практычна. Бо ў працягу апошніх гадоў працоўны народ Заходняе Беларусі пəражыў вельмі і вельмі многа і вынес з усяго пəражытага вялікую палітычную і грамадзкую практыку. І гэтага нельга забывацца. Хоць фармальная прасьвета (граматнасьць) стаіць у нас і ня высока — у значнай меры дзякуючы русыфікатарскай і палянізатарскай палітыцы „міласьціва“ нам панаваўшых і пануючых урадаў—усёж палітычная сьведамасьць шырокіх працоўных масаў стаіць у нас дужа часта вышэй, як у каранной, этнаграфічнай Польшчы, дзе граматнасьць, наагул бяручы, вышэйшая. Так піша аб гэтым, напрыклад, п. Сроковскі, муж даверыя быўшага прем'ера Сікорскага, у сваей кніжцы аб „усходніх крэсах“. І нічога дзіўнага. Народ тут бачыў столькі перамен, столькі ўрадаў, столькі розных парадкаў ці непарадкаў. Бачыў ваенныя зьмены, крах царызму, першую свабоду і другую свабоду — ўрад Керенскага і бальшавіцкі пераварот — першых бальшавікоў і першых „легіёнаў“, другіх бальшавікоў і другіх „легіёнаў“, бачыў „першага“ Пілсудскага, калі ён баіў аб „вольнасьці і роўнасьці“, „вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі“, цяпер бачыць „другога“ Пілсудскага, баючы за бяседным сталом з панамі ўжо іншыя казкі аб „соцыяльнай раўнавазе“.

Усё гэта мы бачылі, што бачылі — вынясьлі на сваёй шыі і выцярпелі на сваёй скуры, дык тады нічога дзіўнага, што народ наш, селянін і работнік шмат што глыбей зразумеў ува ўсей грамадзкай машыне, і, зразумеўшы, лягчэй пазбыўся тых манлівых ілюзіяў — зданьняў, што дагэтуль яшчэ жывіць селянін і работнік польскі. Іменна мы пəражылі і аджылі ілюзію — Констытуцыю, ілюзію зямельнае рэформы, ілюзію сойму і парлямантарнай дэмакратыі, языковых законаў і ўрэшце майскага перавароту, бо замест правоў загарантаваных у Констытуцыі, замест „абывательскіх вольнасьцей“ мы бачылі гвалт і зьдзек, насільства багатых і „устасункованых“; заместа зямельнае рэформы—асадніцтва; у сойме—здраду ўсіх згодніцкіх партыяў; заместа хоць-бы куртатых языковых уставаў — фальш і, проста кажучы, правакацыю. Бо, калі карыстаючы з языковых законаў, пачаў беларускі селянін дзесяткамі тысяч складаць дэклярацыі на родную школу, то дастаў за гэта ня школу, а турму: „до-козы“ пашлі тыя, хто законна зьбіраў і падпісываў дэклярацыі. Даволі прыпомніць ведамую аблаву ў Наваградзкім ваяводзтве і тысячныя арышты сялян.

Дык вось калі прышоў маёвы пераварот (лепш кажучы паварот), то надзеяў у нас было менш, як дзе — або, можа, і зусім ня было. Сялянства беларускае знала Пілсудскага з 1919 г. і з 1920 году і нічога добрага ад яго не спадзявалася й цяпер. Мы былі пэсімістамі, але, здаецца, ніхто ня думаў, што Пілсудскі так моцна падасца ўправа, што ўрад яго будзе ўрадам такой чорнай і голай рэакцыі, як бачым сяньня.

Пілсудскі ўзяў зусім выразны курс і карануе гэты курс — пакуль яшчэ не сябе — у Несьвіжы, у тым Радзівіллаўскім Несьвіжы, дзе дагэтуль пануе сярэднявечны прыгон. Калі хто ня ведае, што такое Несьвіж, хай паедзе туды і запытаецца мяйсцовых сялян. Там няма рэспубліканскай улады, там пануе ўлада князя Радзівілла і ягоных упраўляюшчых, бо кожны ўрадовец, пачынаючы ад Старосты і канчаючы на судзьдзі, залежны ад князя выпаўняе ягоную волю.

Банкет прэмьер-міністра Пілсудскага на Несьвіжскім замку разам з польскімі прыгоннымі магнатамі гэта проста вызаў ,кінуты ў твар беларускаму народу. Але што-ж, малая бяда.,. Гэтым толькі абнажылася запраўдная шляхецкая прырода „быўшага рэвалюцыянэра“ Пілсудскага, абнажылася ўся клясовая мэханіка ўсяго пануючага дзяржаўнага і грамадзкага ладу. Перад законам быццам роўнасьць, на паперы „обывательске вольнасьці“ (грамадзянскія свабоды), а запраўды, на практыцы ў жыцьці—што? Абарона прывілеяў сільнага і багатага, бяспраўнасьць слабога і беднага, крыўда і зьдзек з усіх людзкіх правоў міліёнаў шэрых мас сялян і работнікаў, з усяго беларускага народу.

Вазьмеце слаўны працэс барона Бісьпінга. Тут ужо сам суд паказаў, што мужыка ці работніка „у нас“ можна, як таго сабаку, застраліць (галасы на лавах меншасьці: ганьба. Віцэмаршалак Дэмбскі звоніць), можна папаліць вёскі, а за тое дастаць тытул польскага патрыёта і — хіба ня доўга чакаць —ордэн „Polonia Restitua“ або навет міністра справядлівасьці. Ці-ж гэта ня зьдзек над справадлівасьцю, на грамадзкім сумленьні ўсяго народу.

І хочаце, паны, каб народ у такім палажэньні сядзеў ціха і ня шэмраў, каб ня шукаў дзе-кольвечы і якой кольвечы сілы дзеля абароны, ня толькі сваіх правоў, а проста свайго жыцьця.

Не знаходзячы гэтае абароны ні ў Констытуцыі, ані ва ўрадах, ані ў судох, што толькі на словах незалежныя, селянін і работнік, увесь працоўны люд, увесь беларускі народ шукае тае сілы ў сябе, у сваей собскай арганізацыі, што яго не ашукае, што нічога яму манліва не абяцае, а толькі хоча памагчы вясьці барацьбу за права да жыцьця.

І такая арганізацыя — гэта наша Грамада, прынамсі народ хоча яе такою бачыць і за такую мець.

Народ хоча бачыць у Грамадзе найшырэйшую легальную арганізацыю сялян, работнікаў і працоўнай інтэлігэнцыі, арганізацыю што вядзе барацьбу заўзята і бяз угоды за штодзенныя патрэбы народу нацыянальныя, палітычныя і сацыяльныя; арганізацыю, што гатовіць і гартуе народ да барацьбы за сялянска-работніцкі ўрад, за сялянска-работніцкую ўладу працоўных.

Вы прыпісываеце нам, паны, падгатоўку да паўстаньня. Я не запярэчу, што такая думка ня была-б непапулярнай, каб яе кінуць з гэтае трыбуны. Я не запярэчу, што ненавісьць да пануючага сацыяльнага і нацыянальнага ўціску такая вострая і палючая, што падняць завіруху ня трудна. Паўстаньне можна навет справакаваць. Але што з гэтага, што далей?.. Але мы мусім бачыць і якія віды на ўдачу паўстаньня. То ж трэба быць зусім шалёным, каб ня бачыць, што, не зьвязаўшы свае барацьбы з барацьбой Заходняе Украіны і ўсяе Польшчы, барацьбы сялян з барацьбой работнікаў, вёскі з горадам, сацыяльнага пытаньня з нацыянальным—немагчыма, ня толькі аружнае паўстаньне, але простая абы-якая палітычная перамога.

А раз так, то мы прызываем не да паўстаньня і хочам, каб гэта чулі ня толькі вы тут паны, але чуў ўвесь народ праз вокны гэтага сойму, што толькі ў арганізацыі ёсьць магчымасьць барацьбы і абароны сваіх правоў і інтэрэсаў.

Індывідуальны тэрор. Ведама, ёсьць такія праявы, нельга запярэчыць, бо даўно сказана, што помста саладзейшая за мёд. Нельга запярэчыць, што ёсьць людзі асабіста так пакрыўджаныя ўладай і зьняважаныя, што проста гарэць помстай, — гэтая помста часам кладзё ім у рукі аружжа і кажа забіць, зарэзаць таго ці іншага паліцэйскага агэнта, найчасьцей тайніка і правакатара. Індывідуальны тэрор гэта ня ёсьць спосаб нашай барацьбы, гэта ня наш мэтад. Мы хочам, мы настаўляем усю думку і волю народу, каб у кожную хвілінку, пры кожных акалічнасьцях здольны быў да заргaнізаванага, масавага — хоць і легальнага адпору ў абароне сваіх правоў і палітычных інтэрэсаў, паўтараю — масавы адпор, а не індывідуальны тэрор.

Мы будзем вясьці барацьбу, выводзячы масы дзеля абароны сваіх палітычных правоў, абароны свабоды сходаў, свабоды слова і іншых констытуцыйных вольнасьцей. Бо хоць аб гэтым пішацца ў Констытуцыі, але ж у нас няма ані свабоды сходаў, ані свабоды слова. Як з кожнага мейсца, так і з гэтае трыбуны мы вучым і заклікаем сялянскія і работніцкія масы, каб сваей арганізованасьцю, стойкасьцю, каб сілаю націску сваей масы парвалі загародкі паліцэйскіх забарон, адваявалі сабе гэтыя элементарныя констытуцыйныя правы процi зьдзеку і гвалту паліцыі і адміністрацыі, не зважаючы на ніякія перашкоды. Мусім перамагчы ўсе перашкоды, склікаць сходы, тварыць арганізацыі.

Так сама ўсім народам, цэлай масай вядзем барацьбу за нацыянальную культуру і школу. Цяпер вось ізноў пачалося складаньне дэкляарацыяў на беларускую школу і народ зробіць гэта масава, ня гледзячы на тое, што ня мае ніякое пэўнасьці ў тым, каб дастаць гэтую школу ад цяперашняга ўраду таксама, як і ад папярэдніх. Бо, напрыклад, вось пан віцэ-дзядэк (агульны сьмех) — выбачайце — віцэ-прэмьер і міністар Прасьветы ў адной асобе, хоць і вышаў з такой партыі (Вызваленьне), што пры выбарах у Сойм абяцала навет аўтономію, але-ж цяпер, як чувацъ, проста нецярплівіцца і нудзіцца, калі гаворыць аб справах беларускай школы з беларускімі дэлегацыямі. Але мы ўсе-ж будзем даказываць свае права і, вядучы барацьбу, заргaнізованай масай, пакажам сваю сілу і загартуем яе ў барацьбе.

Мы дэклярацыі будзем складаць, дэклярацыямі і пратэстамі засыплем Вас, пане міністар, явы

Вам будуць сьніцца (агульная вясёласць). Будуць Вам сьніцца ня толькі дэкларацыі, але няхай Вам сьняцца горкія сьлёзы нашых дзяцей, бітых у польскай школе за тое, што гавораць пабеларуску. (Шум. Міністар Бартэль: Дагэтуль Вы не далі фактаў, Не адклікайцесь да мяне бяз фактаў, першы раз чую, што дзяцей беларускіх катуюць у школе).

Калі Вы гэтым дапраўды зацікавіліся, то Вам будуць дадзены факты, урэшце такія факты ня раз ужо падаваліся ўраду зусім афіцыяльна, бо ў нашых інтэрпэляцыях. Я не хачу гэтым сказаць, што іменна Вы сам, міністар, даеце такую інструкцыю, каб біць дзяцей, наадварот, я думаю, што Вы самі не пахваліце гэтага, але гэта не зьмяняе факту, што дзяцей б'юць. (Шум не перастае. Віце маршалак Дэмбскі: Пасла Мятлу прызываю да парадку).

Да масавай барацьбы вядзём народ з надужыцьцямі і гвалтамі адміністрацыі і паліцыі. Ніхто нацыянальна і клясава сьведамы, ніхто, у кім хоць крышка людзкага сумленьня тлеець у сэрцы, ня можа праходзіць спакойна міма катоўні дэфэнзыўнай. А пан віцэ-прэмьер мне не запярэчыць, што у дэфанзывах, як білі, так і б'юць, як каталі так і катуюць—пры ўрадзе „санацыі моральнай", нібы-та „маральнага аздраўленьня". Хіба-ж не патрэбуеце тут ізноў „фактаў", бо на гэта маеце сотні інтэрпэляцыяў. Дык так, — мы будзем загастраць у народзе грамадзкае сумленьне, будзем настаўляць масы на тое, каб на кожным кроку і ў кожным прыпадку дэмаскаваць, раскрываць правакатарскую, шпіёнскую работу. Няхай народ зразумее, што сярод яго не павінна знайсьціся ніводнага тайніка-правакатара. Тайнікаў, правакатараў трэба выкурыць.

(Пасол Скрыпа: Гэта-ж апора для ўраду, правакацыя. Віцэ-прэмьер Бартэль: Ці патрапіце Вы гэта даказаць?).

У сваёй барацьбе мы мусім выкарыстаць усе легальныя способы. Вось, напрыклад, 107 артыкул Канстытуцыі дае грамадзянам права паасобна і разам зьвяртацца да ўлады з пэтыцыямі. Дык мы і будзем зьвяртацца з пэтыцыямі і пратэстамі, выкрываючы надужыцьці ўлады, выкладаючы свае штодзенныя патрэбы і дамаганьні, „загарантаваныя" Конституцыяй. Ведама, усё гэта будзем рабіць публічна, тым больш публічна, каб урад пана Пілсудскага меў магчымасьць паказаць, як ён дбае на дзеле аб тым, каб у Польшчы: „ня дзеелася лішне шмат бяспраўя і несправядлівасьці ў адносінах да тых, хто працу сваю дае другім".

Дык вось, панове, што мы робім, як мы робім.

Магчыма, што паном эндэкам хацелася-б ,каб мы зараз-жа вось на іхняе правакацыйнае жаданьне паднялі нейкае недарэчнае „паўстанька", „рухаўку", каб даць повад да зрыву і разбіцьця ўсяго руху. Але-ж мы на правакацыю ня пойдзем, а будзем заўзята бараніць сваіх правоў, стаяць цьверда і непахільна. Будзем прызываць да прасьветы, да салідарнасьці (дружнасьці) да ахвярнасьці, да арганізацыі, арганізацыі і яшчэ раз арганізацыі. Да арганізацыі палітычнай, да арганізацыі культурна-прасьветнай—школ, народных дамоў і бібліотэк, да арганізацыі эканамічнай — кооперацыі, сельска-гаспадарчых гуртоў (колэк рольнічых) і г. д.

Адзін за ўсіх, усе за аднаго. Усе разам грамадой, бо Грамада — вялікі чалавек.

Вось гэта, паны, больш за ўсё Вам і не падабаецца; таму ўвесь гэты шык каля Беларускай Сялянска Работніцкай Грамады.

Вы маеце, паночкі, йшчэ адзін вялікі клопат і вялікія згрызоты: гэта-ж выбары, да якіх усё бліжэй, здаецца, падходзім, стаяць для вас на „ўсходніх крэсах" пад вельмі чорным і невясёлым знакам пытаньня. Гэта вам страшна і балюча. Тут нават орган віленскіх „дэмакратаў" — субсыдаваны ўрадам з народных падаткаў — Кур'ер Віленскі закрычаў расейскі „караул" разам з стара-шляхецкім „не позвалям". Нельга, кажа, цяпер рабіць выбараў, трэба перш задушыць Граmаду, толькі тады можна рабіць выбары. Гэтае значэньне перадусім мае і прапазыцыя „Зьвёнзку Людова Народовага" (эндэкаў), які проста перакручвае факты. Для паноў эндэкаў страшна „антыпаньствовым" у нашай праграме выдаўся артыкул аб самаазначэньні народаў.

„Стоючы на груньце самаазначэньня народаў, Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада ўважае, што ўсе беларускія землі павінны быць злучаны пад уладай сялян і работнікаў".

Так, гэта прынцыповы кірунак нашай палітычнай лініі, але з гэтым параграфам самым цесным спосабам вяжацца другі пункт нашае праграмы: „адначасна з тым Грамада жыва падзержывае сучаснае імкненьне працоўных мас да стварэньня сацыялістычнага саюзу эўрапэйскіх народаў".

А гэта ўжо прынцыповы кірунак усяе сацыялістычнае думкі, а калі адкінуць прыметнік „соцыялістычны", то аб саюзе эўрапэйскіх народаў гавараць нават лібэральна і дробна буржуазныя партыі і паасобныя палітычныя дзеячы.

Урэшце пункт аб самаазначэньні народаў і злучэньні беларускіх зямель пададзены ў праграме, скажам, „Беларускага Сялянскага Саюзу". Але пакуль гэты саюз не зьяўляецца масавай арганізацыяй, дык там гэта можна ня лічыць „антыпаньствовым". Найцікавей тое, што паны эндэкі, абвіняючы самую нашую праграму ў нелегальнасьці, пакінулі зусім зумысьля той пункт, дзе сказана, што Грамада ў сваей барацьбе карыстаецца мэтадамі легальнай працы, абапёртай на Канстытуцыі. Такое цытаваньне праграмы з такімі пропускамі — гэта просты фальш і падлог.

Наагул мэтады, способы палітычнай барацьбы паноў эндэкаў вельмі цікавыя, тым больш, што ўрэшце іх (эндэкаў) б'юць тою самаю палкаю, якою яны білі або зьбіраліся біць сваіх палітычных праціўнікаў.

Калі йшла, напрыклад, гутарка аб беларускай, украінскай апозыцыйнай сялянскай і работніцкай прэсе, вы, паночкі-эндэкі, заўсёды крычалі на ўвесь голас, што трэба душыць, канфіскаваць, зачыняць, штрафаваць, рэдактараў чуць ня вешаць. А цяпер, калі вы ня зусім паладзілі з Пілсудскім, калі ён дабраўся да вас, дык вы раптам зусім інакш запялі.

А далей — калі білі пасла Галавача пры ўчасьці паліцыі (галасы і П. П. С. — польскай партыі сацыялістаў), калі адміністрацыя ў Пружане наладзіла напад на пасла Ярэміча пры помачы асаднікаў, калі я выступіў на трыбуне ў гэтай справе і сказаў, што банда вайсковых асаднікаў напала на пасла, то вы абурыліся і не далі мне скончыць навет прамову, уважаючы, што імя навет вайсковага асадніка нельга лучыць з бандаю, — а вось, цяпер, калі нейкія афіцэры выгарбавалі скуру вашаму паслу пану Зьдзехоўскаму, то вы зразумелі, што баліць, і тады вы самі не называеце інакш гэтых ужо афіцэраў, а не асаднікаў, як бандытамі; тады аказываецца, што і павага Сойму нарушана і ўсё аргумэнты выкладайце проціў запраўды дзікага паступку.

Так і з гэтаю прапазыцыяю проці Грамады. Вы прызываеце урад, каб ён зачыніў Грамаду. Я дужа добра разумею, што як на тое пайшло, калі маюць зачыняць легальныя партыі, то, ведама-ж, нас першых прымкнуць. Але, відаць, сьвярбіць вам скура... Бо пасьля нас могуць узяцца і за вас, паны эндэкі. Ужо манархічнае „Слово" і „Кур'ер Віленьскі" да гэтага дагаварыліся,

Усім добра ведама, як адносіцца ўрад і ўся ўлада да нашае палітычнае арганізацыі, да Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады. Мітынгаў-вечаў не дазваляюць, зьезды забараняюць, сходы разганяюць, дзеля розных паліцэйскіх кручкоў і прычэпак за легальную, яўную работу садзяць сяброў „до козы", накладаюць штрафы, газэты канфіскуюць і закрываюць. Канстытуцыя гаворыць адно, а робіцца зусім другое. Усё датаго быццам на аснове „закону" уставу Осмолоўскага. Дый што гэта за закон у нібы дэмократычнай рэспубліцы, што горшы за царскія законы?! Гэта-ж не канстытуцыйны закон, а закон ваеннага часу, калі ў нас быў фронт. Фронту няма, вайны быццам няма, а ваенны закон аб сходах істнуе. Што кажу істнуе — йшчэ добра каб істнаваў, а то й гэтага закону паны ваяводы, старасты і камэнданты не шануюць. Дык выходзіць поўнае бяспраўе і неаграніччаны зьдзек над людзьмі.

Можна было б падумаць, што такія адносіны толькі да палітычных арганізацыяў, толькі да Грамады. Такія самыя адносіны і да культурных арганізацыяў, напрыклад да Таварыства Беларускай Школы. Дадзены свабоды ў Канстытуцыі на паперы, але ў жыцьці зьвязаны народу рукі і ногі і заткнуты рот, каб нічога ні зрабіць ні сказаць не пасьмеў. Гэта звычайная і агульная мэтода. Вось віленскія нашы прыяцелі, паны з „Кур'ера Віленьскага" і „Слова" выдумалі такую формулу-сказ: трэба любіць беларускі народ, але зьнішто-жыць Грамаду (należy kochać lud białoruski, ale zniszczyć Hromadę). Трэба любіць, кажа, Беларускі народ, але зьнішчыць усе яго арганізацыі. Вось дык палітыка, палітыка хлусьні!

Але, паночкі, ня так-та лёгка з намі справіцца! Можаце зачыніць Грамаду, а паслоў і часьць нашых дзеячоў пасадзіць у вулей (do ula). Яшчэ шмат мейсца на Лукішках і па іншых турмах, але сто тысяч зарганізаванага народу вы не пасадзіце і не пасадзіце ў турму ўсіх сялян і работнікаў Заходняе Беларусі. Мы перакана765аны, што што вашым апэтытам і зьдзекам сам народ дасьць масавы адпор у тэй, ці іншай форме.

Дый што-ж вы даказалі-б, зачыніўшы Грамаду? Даказалі-б толькі сваю слабасьць, даказалі-б, што на законным груньце змагацца з намі ня можаце, а таму, кінуўшы Канстытуцыю і закон, хапаецеся за бізун і штык, што ўжо і пачалі рабіць.

(Маршалак паўторна дае чырвоны сьвет, каб аратар кончыў).

Калі йдзе гутарка аб даверыі да гэтага ўраду, то змушаны кончыць, скажу коратка: мы думаем, што старым байкам пана Маршалка аб штандарах з высокімі клічамі „за нашу і вашу свабоду" тая самая цана, што і новым аб жабках і фальбанках. На паказнай белай старане гэтых штандараў напісана „за нашу і вашу вольнасьць", а на адваротнай чорнай — за вашыя землі для нас, — за беларускія і ўкраінскія землі для польскага пана і асадніка.

---

# Інтэрпэляцыя № 88

**паслоў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да паноў міністраў Унутраных Спраў і Справядлівасьці ў справе пратрыманьня ў сьледчым вастрозе Вітальда Семянчука ад верасьня 1925 г, і вымушаньня ад яго паказаньняў пры помачы катаваньняў.**

Вастрогі ў Заходняй Беларусі перапоўнены сялянамі і работнікамі, якіх палітычная паліцыя ўкідвае за краты паводле замацаванага ўжо шаблёну: арыштуюць, катаваньнем вымушаюць падпісаньня пратаколу, — пасьля садзяць у састрог. А далей паліцыя „вядзе сьледзтва" г. з. папросту пратрымлівае арыштаванага месяцамі і гадамі ў сьледчым вастрозе.

Вось што нам піша Вітальд Семянчук — вязень з Беластоку:

„23 верасьня 1925 г. быў я арыштаваны ў сваім доме двума паліцыянтамі дзярж. паліцыі і адным агэнтам палітычнай паліцыі і адведзены на „пастарунак" дзярж. паліцыі ў м. Міхалова. На другі дзень (24. IX. 25 г.) адвязьлі мяне да экспозытуры палітычнай паліцыі, знаходзячайся тады ў бараках „Петрашы"— у дзьвёх вярстох ад Беластоку, дзе ў той-жа самы дзень „бадалі" мяне два функцыянэры палітычнай паліцыі ў цывільнай вопратцы; прозьвішчаў іх ня знаю, але іх самых магу пазнаць. У часе „баданьня" прыклейвалі мне справу прыналежнасьці мае да камуністычнай партыі, на што я адказаў, што не належу, бо і запраўды да яе не належаў. Тады скавалі мне рукі кайданамі і білі ў бакі, плечы і па твары; білі датуль, пакуль не патраціў я прытомнасьці то, баючыся новых катаваньняў, сказаў: „пішэце, што хочаце, толькі ня беце". Пасьля такога адказу агэнты, што вялі „баданьне", паклікалі якогасьць чалавека ў мундзіры дзярж. паліцыі,— нумару яго не памятую. Гэты паліцыянт пісаў пратакол так, як яму казалі „шпікі". „Шпікі" прачыталі мне пратакол і зажадалі подпісу, пагражаючы пры гэтым, што калі не падпішу, то зноў буду біты. Баючыся новых катаваньняў, падпісаў пратакол, зьместу якога ня знаю. Некалькі дзён пасьля зноў паклікалі мяне на „баданьне", якое рабілі іншыя два „шпікі" ў цывільнай вопратцы; прозьвішчаў іх ня знаю, але іх самых магу пазнаць. Паўтарылі тыя самыя катаваньні, пры чым пагражалі мне рэвольвэрам, уліваньнем вады ў нос і рот, а таксама ўбіваньнем шпілек пад ногці. Пры гэтым функцыянэры дзярж. паліцыі некалькі раз паказалі мне, што мушу пацьвердзіць паліцэйскі пратакол ў сьледаваццеля, у праціўным разе—казалі мне,— што назад возьмуць у дэфэнзыву і зноў будуць біць датуль, пакуль не пацьверджу. Тое самое казаў мне і паліцыянт, што вёў мяне да сьледаваццеля, і я, баючыся новых катаваньняў, пацьвердзіў паліцэйскі пратакол у сьледаваццеля.

Аба ўсім гэтым напісаў я жалабу да соймавай вастрожнай камісіі, але пракурор направіў яе да сьледаваццеля Янчалка ў Беластоку, які напісаў пратакол аб пабіцьці мяне функцыянэрамі палітычнай паліцыі.

( — ) **Вітальд Семянчук**

Падаючы гэта да ведама паноў міністраў, падпісаныя пытаюць:

Пана міністра справядлівасьці:

Ці склонны ён загадаць:

1) Безадкладнае звальненьне Вітальда Семянчука з вастогу.

2) Заканчаньня сьледзтва ў гэтай справе і пацягненьня да адказнасьці віноўных зацягнутага сьледзтва?

і пана міністра Унутраных Спраў:

1) Ці склонны ён загадаць безадкладнае жорсткае сьледзтва ў гэтай справе?

2) Ці склонны ён адхіліць ад урадаваньня і пацягнуць да адказнасьці віноўных катаваньня Вітальда Семянчука?

Варшава 30. VII. 1926 г.

**Інтэрпэлянты.**

---

# Інтэрпэляцыя № 89

паслоў з Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады і тав. да п' Міністра Справядлівасьці ў **справе катаваньня палітычных вязьняў у Беластоцкім вастрозе.**

Агульна ведама, які тэрор пануе ў польскіх вастрогах. Весткі аб зьдзеках над вязьнямі прабіраюцца з вялікім трудом за вастрожныя муры і з вельмі значным спазьненьнем. Аб катаваньні беларускіх вязьняў 1 траўня толькі цяпер атрымаліся весткі.

Вось як апісвае Арон Эбстэйн траўневыя выпадкі ў беластоцкім вастрозе.

„Адміністрацыя распачала проці нас атаку 1 траўня. Галадалі ня толькі палітычныя, але й крымінальныя. У пятніцу 4 чэрвеня спацыравалі 6 вязьняў. У той час вялі палітычных ў лазьню, і адзін з спацыруючых, Павал Радзіцкі, сказаў некалькі слоў да праходзячых. За гэта хацелі яго ўраз-жа забраць з спацару. Ен, аднак, не хацеў

йсьці, кажучы, што для вязьня надта дарагое павэтра. Тады набеглі інспэктары з цэлаю бандаю старажоў, кінуліся на Радзіцкага, схапілі яго за галаву і ногі і валочачы білі. Падняўся крык сярод рэшты спацыруючых і з паасобных жаночых каморак. Прыбеглі таксама вязьні з камэры № 108 і бальнічнай, якія спацыравалі з другога боку і пачалі пратэставаць і пэмагаць бітаму. Разумеецца, што Радзіцкага пабітага завалаклі да вастрогу і пасадзілі ў асобнай каморцы, у якой зачынілі вакно. Вязьня палажылі на голай падлозе. Пяцярых застаўшыхся спацыруючых пакінулі ў знак пратэсту праходкі. Трох з іх Годнэра Вісмана, Ідля Гэндлера і Альтэра Епстэйна забралі ў карцэр. Кожнага з іх вялі 10 старажоў з інспэктарам на чале, — заткнуўшы ім рот. Аднак-жа ўдалося ім крыкнуць да ніжняга калідору. У карцэры пачалі іх біць кулакамі і ключамі і таўчы нагамі па ўсім целе датуль, пакуль старажы не павыходзілі з сілы. Акрываўленых і пабітых бяз духу ўкінулі ў мокрую, зусім без паветра цямніцу. Сохэру Эсману паламалі ў часе біцьця храсток у носе, так што кроў цякла проста дзюркачом. У карцэры засталася засохшая лужа крыві. Бяз духу і прытомнасьці ляжалі яны напэўна некалькі гадзін. Калі прышлі да прытомнасьці — знайшлі ў цямніцы яшчэ трох вязьняў з камэры 108; Шпільвогэля Морыца, Вінцэнта Шыдлоўскага і Грыгевіча Андрэя—таксама зьбітых так, што не маглі яны рушыцца з месца. Ня былі яны — што праўда — так скатаваныя, як папярэднія, але з іх ранаў цякла кроў у многіх мясцох і цела было спухшы. Ракам прылезлі яны адзін да другога і пачалі пацяшаць адзін аднаго і пробавалі, як толькі было можна, устрымаць кроў, што лілася з ранаў. Пазнаўшыся, пастанавілі яны распачаць галадоўку, хоць-бы да сьмерці і вытрымаць гэтую пастанову. Былі яны пэўны, што таварышы, даведаўшыся аб гэтых вастрожных паступках, прыйдуць ім на помач. І загаладалі. На трэці дзень — у нядзелю — увайшоў інспэктар з цэлаю бандаю старажоў і пачалі на-нова біць і дратаваць згаладнелых, якія ўжо тры дні ня прымалі ежы. Калі адзін з катаваных запытаў, за што б'юць — то сам адміністратыўны інспэктар разам з памоцнікамі пачаў яшчэ больш біць датуль, пакуль катаваныя ня страцілі прытомнасьці Тады толькі перастала катаваньне. Калі прыйшлі да прытомнасьці, пастанавілі не паддацца і далей галадаць. У тую самую нядзелю ўвечары прывалаклі яшчэ аднаго якогасьць вязьня, укручанага ў посьцільку і разьдзетага да сарочкі. Білі яго на вачу рэшты бэстыйскім спосабам у працягу каля 10 мінут. Быў гэта, як аказалася, Пётр Тамашэвіч, хворы, які ляжаў у бальніцы. Прыйшоўшы да сябе, расказаў ён, як яго ў нядзелю перад вечарам забралі ў асобную каморку і, калі ён лёг спаць, прыйшлі і забралі яго да цямніцы. На заўтра раніцаю раздаўся голас на калідоры і адгалосак удараў якбы малатарні.— Гэта мяне валаклі і малацілі мае косьці. Знаходзіўся я ў бальніцы ўвесь час; выпісалі мяне, але ня было доктара, дык застаўся, каб пачакаць яго. Адначасна сталіся вышэй апісаныя выпадкі, выбухла галадоўка. Затрымалі мяне ў бальніцы, бо бальніца не галадала. У панядзелак выбухнула галадоўка і ў бальніцы.

Бяз ведама доктара аддалі мне рэчы і завялі ў адміністрацыйны пакой. Адміністрацыйны інспэктар запытаў мяне, ці крычаў я. Я не адказаў. Пытаў, ці галадую. Адказаў: „але". Тады вакола мяне пачалі зьбірацца, накінулі мне на галаву пакрывала, выкруцілі рукі назад і скінулі на сходах. Ляжаў я на падлозе і білі мяне дзікім спосабам. Страціў я прытомнасьць.

Калі прышоў да прытомнасьці, знаходзіўся пасярод вышэй успомненых сямёх таварышаў у цямніцы. Ня мог рушыцца. Ледзьве дыхаў. Там галадуючы ўжо 4-ты дзень таварышы падлажылі якуюсьць вопратку пад мае косьці. Расказвалі, як мяне білі ў іх вачу. Сіліўся за кожным разам трымацца на нагах, але заўсёды падаў. Ня верыў навет, што гэтак я быў біты. Увечары таго-ж самага дня прыйшоў вастрожны доктар з фэльчарам і запытаўся, ці не патрабуем помачы. Інспэктар стаяў пры гэтым і таму не хацелі мы адказываць. Калі той пайшоў, паказалі мы свае раны, сінякі, гузы. Кожны хватаўся за галаву. Вечарам вывялі шасьцярых з нас. На заўтра раніцаю правялі мяне да 14 асобнай каморкі з двума яшчэ вязьні з карцэру Аблем і Шонарам. Тут даведаліся мы, што галадоўка закончалася. Чуемся страшэнна скатаванымі. Цела мае пакрыта сінякамі і гузамі. Патрэбавалі мы доктара — не далі яго нам, некалькі дзён плюў я крывёю".

Дзеля вышэйшага падпісаныя пытаюцца п. Міністра:

1) Ці ведае ён аб гэтых фактах? а калі не, то:

2) Ці склонны ён загадаць безадкладнае сьледзтва ў гэтай справе?

3) Ці віноўныя катаваньняў вязьняў будуць звольнены з сваіх пасадаў і пацягнуты да карнай адказнасьці?

Варшава 2. VIII. 1926 г.

Інтэрпэлянты.

---

# Інтэрпэляцыя № 90

паслоў з Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады і тав. да п. п. Міністраў Унутраных Спраў і Справядлівасьці **ў справе бяспраўнага арышту і катаваньня Ціхана Раманюка палітычнай паліцыяй у Міхейчыцах і Бельску Падляскім.**

Адміністрацыйныя і судовыя ўлады запаўняюць вастрогі Заходняй Беларусі паводле наступнага традыцыйнага звычаю: арыштуюць, біцьцём і катаваньнем змушаюць падпісаць фальшывы пратакол, а пасьля гадамі трымаюць у сьледчым вастрозе.

Вось яшчэ адзін з многіх выпадкаў, якія падаваліся ў папярэдніх нашых інтэрпэляцыях:

Ціхан Раманюк з в. Паканёва, Мілейчыцкай гм., Бельска-Падляскага пав. паведамляе нас аб наступным:

23 жніўня мін. году арыштаваў мяне „пастарунак" дзярж. паліцыі ў Мілейчыцах, дзе ўвялі мяне да асобнае каморкі, у якой знаходзіліся 6 асоб, адзетых пацывільнаму. Як толькі ўвайшоў я ў гэтую каморку, запыталі мяне ці належу да камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Я адказаў, што ні да якай партыі не належу. Тады адзін з сышчыкаў сказаў: „Калі ня ведаеш, то скідай марынарку", што мусяў я зрабіць. Пасьля сышчыкі скавалі мне рукі кайданамі, змусілі сесьць на падлогу, скутыя рукі залажылі на калені, а паміж каленямі і лакцямі працягнулі тоўсты кій; перавярнулі мяне на плечы і пачалі турзаць за валасы, таптаць нагамі і біць у хрыбёт. Пасьля спыталі мяне, ці знаю Пятра Сабяшука і яшчэ аднаго; — адказаў я, што знаю, бо паходзяць з аднае са мною вёскі. Пасьля раскавалі мне рукі і адзін з сышчыкаў моцна ўдэрыў мне кайданамі ў плечы, кажучы: „Ня хочаш прызнацца, што належыш да камуністычнай партыі, то змусім".

24 жніўня мін. году адвязьлі мяне ў Бельск Падляскі, дзе быў я адведзены да будынку новай павятовай бальніцы за местам, Увечары ў той-жа дзень паклікалі мяне на „баданьне". Першыя словы сышчыкаў былі наступнымі: „Не хацеў прызнацца ў Мілейчыцах, то цяпер прызнаешся тут!" Потым завялі мяне ў каморку, у якой адбываюцца „баданьні", і запыталі: „ці належыш да партыі?" — Я адказаў, што ні да якай партыі не належу. Тады сышчыкі скавалі мне рукі, як вышэй апісана, і пачалі ізноў мяне біць аж да страты прытомнасьці і кідаць з усяе сілы аб падлогу. Гэтак улілі мне 5 бутэлек вады. Калі я патраціў прытомнасьць, сышчыкі пачалі ліць на мяне ваду, зьнялі кайданы і перанясьлі ў іншую каморку, дзе прынясьлі выпрацаваны функцыянэрамі палітычнай паліцыі пратакол, жадаючы, каб я яго падпісаў. На гэта я адказаў, што без прачытаньня не падпішу. Дзеля гэтага пачалі мяне лаяць, пагражаючы новым катаваньнем. Пад гэтымі пагрозамі я падпісаў пратакол, не пазнаёміўшыся з яго зьместам. Зазначаю, што па дарозе ад Мілейчыц да Бельска Падляскага пазнаў я аднаго паліцыянта дзярж. паліцыі № 825, „на наплечніку рымскае V", які браў удзел разам з сышчыкамі палітычнай паліцыі ў Мілейчыцах у катаваньні, будучы ў цывільнай вопратцы. 4 верасьня на „баданьні" ў сьледавацеля II округі ў Бельску Падляскім паліцэйскага пратаколу не падпісаў я, бо пасьля прачытаньня яго сьледавацелем, пераканаўся я, што ў ім адны махлярствы і выдумкі, створаныя функцыянэрамі паліцыі.

Дзеля вышэйсказанага падпісаныя пытаюцца п. Міністра Унутраных Спраў:

1) Ці склонны ён загадаць безадкладнае сьледзтва ў гэтай справе?

2) Ці віноўныя катаваньня Раманюка будуць зьвольнены з дзяржаўнай службы і пацягнуты да карнай адказнасьці?

і п. Міністра Справядлівасьці:

Ці склонны ён загадаць, каб ураз-жа звольнілі Раманюка з сьледчага вастрогу і прысьпешылі сьледзтва ў гэтай справе?

Варшава, 2. VIII. 1926 г.

Інтэрпэлянты.

---

# Інтэрпэляцыя № 91

паслоў з Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады да п. Міністра Унутраных Спраў у справе **катаваньня і біцьця паліцыянтамі і паліцэйскімі ўрадоўцамі грамадзян Кобрынскага пав.**

Уначы з 27 на 28 красавіка г. г. на абшары Кобрынскага пав, былі зроблены масавыя арышты паміж беларускай і жыдоўскай люднасьцяй.

У паказаным часе былі арыштаваны: 1) Лукаш Валасюк, 2) Хвядос Казак, 3) Аляксандар Сьцепанюк, 4) Янка Анціпаровіч, 5) Платон Газук, 6) Мікалай Буянюк, 7) Хведар Канапчук, 8) Сроль Капінецкі, 9) Марк Жук, 10) Мэціс Камянецкі, 11) Мошка Верхалеўскі, 12) Сымон Ігнацюк, 13) Гардзей Смольскі, 14) Пракоп Яўхімік, 15) Шлёма Камянецкі, 16) Махур Якуб, 17) Васіль Анціпаровіч, 18) Ануфры Глек, 19) Мошяль Гольдбэрг, 20) Пракоп Савук, 21) Юдэль Крыглёз, 22) Павал Коська, 23) Борух Луков, 24) Сроль Трунянскі, 25) І. Перлімут, 26) Нікан Казак, 27) Якіпчук Карніла, 28) Панасюк Павал, 29) Сьцяпан Глік, 30) Якубовіч Лодзіс, 31) Кастусь Пук, 32) Пракоп Кухарчук, 33) Аляксандар Борздун, 34) Мікалай Сядзюк, 35) Зэйма Таерштэйн, 36) Кузьмін Прымачук, 37) Мошка Памяранец, 38) Зак Міха, 39) Ехэвэд Гольцбэрг, 40) Хаім Быль, 41) Азыдор Грышчук.

Вышэй памянутыя грамадзяне Кобрынскага пав. былі пасаджаны ў вастрозе ў Кобрыне і 16 жніўня г. г. былі яшчэ там, а можа быць і да гэтай пары пазбаўлены свабоды, дзеля чаго заўсёды ёсьць магчымасьць даведацца, з якіх вёсак і гмінаў тыя людзі паходзяць.

На другі дзень Кобрынская паліцыя ўсіх арыштаваных пачала „бадаць" у справе западозраньня ў прыналежнасьці да камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

Дзеля таго, што арышты былі роблены масава — паліцыя, ня маючы пэўных абцяжваючых доказаў, распачала катаваньне людзей, якое, як паведамляюць самы пацярпеўшыя, не практыкавалася нідзе ў культурным сьвеце і апошні раз мела месца за часоў інквізыцыі. Вось як Кобрынская паліцыя бараніла інтэрэсы дзяржавы і працавала на карысьць справядлівасьці, на што маем пераконваючыя доказы. Так званае „баданьне" паліцыя рабіла ўначы, дзеля чаго брала па адным з арыштаваных і адводзіла да асобнай каморкі. Там, зьвязаўшы разам рукі і ногі катаванаму і працягнуўшы паміж імі кій, паліцыянты білі свае ахвяры кіямі ў пяты, таўклі нагамі ў бакі, вырывалі з галавы валасы, улівалі ў нос горка-салоную ваду і наагул рабілі г. зв. „баданьне" такім самым спосабам, які практыкуецца цяпер у Польшчы і перад якім бляднеюць усе спосабы зьдзекаў і катаваньняў людзей, якія толькі бачыў сьвет.

Усяго гэтага для кобрынскай паліцыі было мала, — таму скавалі ахвярам рукі і тапталі іх і білі нагамі; выпадкі — паліцыянты плявалі ім у твар.

У часе гэтага „баданьня", каб заглушыць крыкі і енкі, накідалі ахвярам на галавы кажухі і затыкалі ім ганучамі рот, і апрача таго тыя з паліцыянтаў, якія мелі здольнасьць да музыкі ігралі на бандуры і пялі.

Навакол паліцэйскага „пастарунку" стаяла паліцыя, якая нікога ня ўпускала, і калі выпадкова ўвайшоў туды Сроль Камянецкі (Кобрынь, Берасьцейская 45), 70 гадовы дзед, то паліцыя схапіла яго і адразу пачала біць, крычачы — „жыдзе, камунісьце" і г. д.

Некалькі разоў прыходзіў на „пастарунак" сьледавацель даведацца, „ці не надумаліся арыштаваныя" і, не атрымаўшы адказу, пацяшаў: „я вас пакіну яшчэ тут і тады вы напэўна ўсё скажаце".

Некаторыя з арыштаваных скардзіліся сьледавацелю на пабіцьцё і катаваньні паліцыянтамі, на што той адказаў, што гэта „адзіны спосаб пры „баданьні" і што тут ня істнуе ніякая канстытуцыя". Шпікі з насьмешкамі паясьнялі арыштаваным, што яны на неадзначаны часададзены на „ласку" паліцэйскай улады. Усе гэтыя дзікасьці і катаваньні людзей паліцыя выконвала пад кіраўніцтвам каманданта сьледчай паліцыі Ягадзінскага, шпіка Адамчыка і Солтана,—выконаўчымі-ж гэтаго дзікага катаваньня былі 12 паліцыянтаў, прозьвішчы якіх нам ня ведамы, але для п. Міністра заўсёды магчыма іх выкрыць.

Сьведкамі ў гэтай справе могуць быць наступныя асобы:

1) Уладзімір Цімашук—в. Стасюкі, гм. Стрыгава, Кобрын. пав.; 2) Каплан Нафталі — Кобрын, Крывая № 3; 3) Босыняк—Кобрын, Бобруйская 23; 4) Альтэ Фэльдман — Кобрын, Ратманска; 5) Мэер Луков — Кобрын, Берасьцейска 24; 6) Янка Анціпаровіч—в. Мельнікі, гм. Пруск; 7) Сяргей Шэйка —в. Мельнікі, гм. Пруск; 8) Кузьмін Барташук— в. Хадосі, гм. Пруск; 9) Аляксандар Анціпаровіч— в. Мельнікі, гм. Пруск; 10) Мікалай Сідюк — в. Турпа, гм. Пруск; 11) Піліп Іванюк — в. Селец, гм. Пруск; 12) Сроль Біль — Школьная вул.; 13) Салавей Шолом—Кобрын, вул. 3-га мая; 14) Шолом Лукашук — в. Помятычы, гм. Пруск; 15) Андрэй Глёк — там-жа; 16) Рыгор Глёк — там-жа; 17) Марцюна Смольская — там-жа; 18) Агата Казак — там-жа; 19) Тацяна Грынюк — там-жа; 20) Альжбета Касьцюк—там-жа; 21) Агата Глек— там жа; 22) Васіль Дзянісюк — в. Андронава, гм. Стрыгава; 23) Эмануэль Стаўскі — Кобрын, Каляёва № 25.

Рэчовымі доказамі ў гэтай справе — ганебнай для ўсяе Рэспублікі, — можа быць закрываўленая і парваная катамі вопратка, якая прахоўваецца ў вастрожным магазыне, калі адміністрацыя не дагадалася зьніштожыць усё гэта.

Пры гэтакім катаваньні, для якога няма назову ў мове цывілізаваных народаў, — арыштаваныя, як кажуць самы, змушаны былі падпісаць усё, што жадалі каты.

На падставе вышэй пададзенага ніжэй падпісаныя пытаюцца ў п. Міністра:

1) Ці склонны ён ураз-жа загадаць сьледзтва ў гэтай справе і пацягнуць да карнай адказнасьці ўсіх праступнікаў у паліцэйскіх мундзірах і шпікоў, якія дапусьцілі да вышэй апісанага злачынства?

2) Ці склонны ён наагул зрабіць пэўныя крокі, каб зрэарганізаваць паліцэйскі апарат, давясьці да парадку і змусіць яго выконваць свае абавязкі на праўных падставах, істнуючых у Польшчы?

3) Ці склонны ён скасаваць усе тайныя інструкцыі і загады, адносячыяся да катаваньня палітычных вязьняў, бяручы пад увагу, што толькі пры істнаваньні гэтага роду інструкцыяў і загадаў магчымы вышэй апісаныя злачынствы паліцэйскай улады ў адносінах да люднасьці Заходняе Беларусі.

Варшава. Верасень 1926 г.

Інтэрпэлянты.

# Інтэрпэляцыя № 92

паслоў з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да п. Міністра Унутраных Спраў **у справе бяспраўнага арышту і пабіцьця паліцыянтамі сябры Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады — Міхала Віткоўскага.**

Зьдзекі польскай паліцыі над беларускай люднасьцяй і белы тэрор і надалей не перастаюць.

У апошні час паліцэйская ўлада зьвярнула ўвагу на зарганізаваную частку працоўнай беларускай люднасьці і тэрорызуе сяброў легальна істнуючай нашай партыі,—маючы мэтай гэткім чынам затармазіць палітычны рух у Заходняй Беларусі, які, відаць, вельмі не падабаецца буржуазным клясам, а тым самым і адміністрацыйна-паліцэйскай уладзе, якая стаіць у абароне інтэрэсаў гэтых клясаў.

Красамоўным доказам гэтага можа служыць факт, аб якім паведамляе нас вясковая арганізацыя нашай партыі з в. Лебедзева, Маладэчанскага пав.

6 верасьня г. г., калі сябра Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, Міхал Віткоўскі, стаяў на вуліцы і паказаў свайму знаёмаму сваю партыйную легітымацыю, якую мае кожны сябра нашай партыі,—да Віткоўскага падыйшоў паліцыянт Журавік і загадаў яму паказаць гэтую легітымацыю, пасьля арыштаваў яго і адвёў на „пастарунак“ паліцыі.

На „пастарунку“ Віткоўскага „бадалі“, скуль узяў гэтую легітымацыю,—калі-ж той адказаў,—што атрымаў з Цэнтральнага Сэкрэтарыяту „Грамады“ ў Вільні, які легальна істнуе, паліцыянт Журавік пабіў Віткоўскага і пасадзілі яго пад арышт і толькі 7 верасьня зволнілі.

На падставе вышэйшага ніжэй падпісаныя пытаюцца п. Міністра:

Ці склонны ён загадаць у гэтай справе съледзтва і пацягнуць да карнай адказнасьці паліцыянтаў, якія гвалцяць грамадзянскія правы, прадбачаныя Конституцыяй?

Варшава, верасень 1926 г.

Інтэрпэлянты.

# Інтэрпэляцыя № 93

паслоў з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да пана Міністра Унутраных Спраў **у справе біцьця паліцыяй беларускай люднасьці.**

У сваім часе шмат гутарылі аб той „маральнай направе“, якая павінна настаць пасьля траўневага пераваропу. Аднак — што ўсё гэта засталася пустым гукам, а паліцыя катуе працоўную люднасьць Заходняй Беларусі, так сама, як і катавалі яе да траўневага пераваропу, а ваяводзкая ўлада—й цэнтральная, відаць, толеруе ўсё гэта і тым самым у Польшчы й да апошніх часоў пануе белы тэрор, як сыстэма ўрадаваньня, — доказам гэтага можа быць наступны факт.

1 чэрвеня г. г. паліцыяй Ваўкавыскага пав. былі зроблены ў некалькіх вёсках арышты.

Арыштаваных папрыводзілі ў м. Пяскі, дзе паліцыя нялюдзкім спосабам катавала і зьдзекавалася над імі.

Як апісваюць сьведкі, — арыштаваным налажылі на рукі і ногі кайданы і білі да страты прытомнасьці, улівалі ваду праз нос, душылі за горла, вырывалі валасы, білі кіямі па грудзьёх і галаве. Адзін з арыштаваных Уладзімір Майзік 6 чэрвеня г.г. ад зробленых яму пабояў быў блізка сьмерці. Такім чынам былі скатаваны на „пастарунку“ дзяржаўнай паліцыі ў м. Пясках наступныя асобы: 1) Піліп Аўсейчык, 2) Дзяніс Шот, 3) Аляксей Мандзін, 4) Пімен Макарэвіч, 5) Міхал Кулікоўскі, 6) Язэп Сядач, 7) Сьцяпан Мацуль, 8) Язэп Мошэйко, 9) Майзік Уладзімір.

Месца іх пражыцьця мусіць добра ведаць „пастарунак“ паліцыі ў Пяскох. У катаваньні дзейны ўдзел бралі шпікі, якія прыехалі да Пяскоў з м. Зэльвы і адзін з іх называецца Двумонскі, — таксама камандант дзяржаўнай паліцыі ў Пяскох і паліцыянты №№ 309 і 907.

Сьведкамі гэтага былі ўсе ніжэй падпісаныя жыхары м. Пэска:

1) Янка Шабунька, 2) Эпштэйн, 3) Янка Сурмач), 4) Рудзяк, 5) М. Кулікоўскі, 6) Дзяніс Мандзік, 7, Ігнат Дзямейшчык, 8) Піліп Аўсейчык, 9) Міхал Шот, 10) Дзяніс Шот.

На падставе вышэй пададзенага ніжэй падпісаныя пытаюцца п. Міністра:

Ці склонны ён загадаць безадкладнае съледзтва ў гэтай справе і пацягнуць да карнай адказнасьці паліцыянтаў-праступнікаў?

Варшава, верасень 1926 г.

Інтэрпэлянты.

# Інтэрпэляцыя № 94

паслоў з Беларускай Сялянска-Работніцкае Грамады да п. Міністра Унутраных Спраў **у справе катаваньня беларускай люднасьці паліцыяй.**

Восеньню 1925 г. да хаты селяніна Міхала Скрабата, пражываючага ў в. Сашыцы, Селецкай гм., Пружанскага пав. зьявілася, каб зрабіць вобыск, паліцыя. Крыкнуўшы: „ręce do góry“, кінулася да сына Міх. Скрабата — Макара, якога пачала вязаць.

Калі Міхал Скрабат, як бацька, запытаў паліцыянтаў, за вошта яны вяжуць яго сына, адзін з іх, прозьвішча якога пацярпеўшы ня знае, кінуўся на яго і пачаў дзікім спосабам біць па твары.

Усё гэта бачылі сяляне в. Сашыцы, Селецкай гм., Пружанскага пав. Аляксандар Маляшэвіч, Анна Крэс—дачка Міхала і Галена Крэс, якія былі прысутны пры ўсім гэтым.

Арыштаваўшы Макара Скрабата, адвялі яго да Язэпа Скрабата, жыхара тае-ж вёскі, дзе, паваліўшы яго на зямлю, паліцыянты білі яго абцацамі і рэвальвэрамі.

Да гэтага часу (г. знача да жніўня 1926 г.) Макар Скрабат сядзіць у вастрозе і, як кажа бацька яго, там б'юць яго ізноў, вымагаючы якіхсьці прызнаньпяў.

Апрача Макара, у той самы час быў арыштаваны Янка Хвядчэнка. Усе арыштаваныя сядзяць у вастрогу ў Пружанах.

Ніжэй падпісаныя пытаюць п. Міністра:

Ці склонны ён загадаць у гэтай справе сьледзтва і ці ня рачыць ён даказаць, што факты падобнага роду, маючыя заўсёды месца ў Заходняй Беларусі, не зьяўляюцца сыстэмай, уведзенай у жыцьцё для стэрорызаваньня працоўнай люднасьці.

Варшава. Верасень 1926 г.

Інтэрпэлянты.

# Інтэрпэляцыя № 95

паслоў з Беларускае Сялянска Работніцкае Грамады да п. Міністра Унутраных Спраў **ў справе паліцэйскага тэрору ў адносінах да беларускай прэсы.**

13 верасьня г. г. сябра Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады Якуб Качук прадаваў на рынку м. Дэрэчын, Слонімскага пав.. беларускую газэту „Народная Справа”, з прычыны чаго Якуб Качук быў арыштаваны камандантам „пастарунку” дзярж. пал. ў Дэрэчыне і адведзены на „пастарунак”.

Там быў напісаны пратакол, прычым у вышэй памянутага Качука былі адобраны газэты, расьпіскі не далі яму і сказалі, што надалей гэтай газэты прадаваць ня можна, бо ў праціўным выпадку ён будзе пасаджаны ў вастрог.

Якуб Качук прадаваў Беларускую газэту „Народная Справа” №№ 14 і 15, якія былі не сканфіскаваны і мелі дзякуючы гэтаму свабодны абарот.

На падставе вышэй апісанага ніжэй падпісаныя пытаюцца п. Міністра:

Ці склонны ён загадаць у гэтай справе сьледзтва і наагул зрабіць пэўныя крокі, каб зьліквідаваць робленыя перашкоды паліцэйскімі ўладамі распаўсюджваньню беларускіх газэтаў?

Варшава. Верасень 1926 г.

Інтэрпэлянты.

# Інтэрпэляцыя № 96

паслоў з Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады да п. Міністра Унутраных Спраў **ў справе пабіцьця на „пастарунку“ дзярж. паліцыі ў Новым Пагосьце, Браслаўскага пав. сябры „Грамады“ Мікалая Чапулёнка.**

11 верасьня г. г. да сябры Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады Мікалая Чапулёнка, пражываючага ў в. Лучкі, Нова-Пагостскай гм., Браслаўскага пав., зьявіліся паліцыянты з Нова-Пагост. „пастарунку“, якія арыштавалі яго і адвялі на „пастарунак“ дзярж. паліцыі ў Новым Пагосьце.

На „пастарунку“ тамашні камандант, які быў п'яны, моцна пабіў Мікалая Чапулёнка, а пасьля зьвольніў яго з-пад арышту.

Пакрыўджаны зьвярнуўся да дохтара Чэслава Волянскага ў Новым Пагосьце, які выдаў яму пасьведчаньне, з якога відаць, што Чапулёнак значна быў пабіты.

Прычынай да арышту і пабіцьця паслужыла дзейнасьць Мікалая Чапулёнка, як сябры „Грамады“.

На падставе вышэй пададзенага падпісаныя пытаюцца ў п. Міністра:

Ці склонны ён загадаць у гэтай справе сьледзтва, каб зьліквідаваць паліцэйск тэрор, стасаваны да сяброў нашай палітычнай партыі?

Варшава. Верасень 1926 г.

Інтэрпэлянты.

# Інтэрпэляцыя № 97

паслоў з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да п. Міністра Унутраных Спраў **у справе катаваньня сялян Расьцейскага павету, Лушчыцкай гм., з в. Малыя Шчытнікі, Міхала Семянюка паліцэйскай уладай.**

13 чэрвеня г. г. паліцыянты з пастарунку ў Індуры, Горадзенскага пав. арыштавалі селяніна Міхала Семянюка, западозрыўшы яго ў procідзяржаўнай рабоце, — які пасьля быў адведзены да сьледчай экспозытуры ў Горадні.

15 чэрвеня г. г. у экспозытуры распачалося звычайнае ў паліцэйскіх урадах, „баданьне“: арыштаванага закавалі ў кайданы, білі абцацамі ў бокі і грудзі, рвалі ў яго валасы, улівалі ў нос ваду і г. д.

Выконвалі гэтае катаваньне два нязнаныя пацярпеўшаму шпікі, якія дамагаліся, каб арыштаваны прызнаўся да прыналежнасьці да камуністычнай партыі.

17 чэрвеня арыштаваны Семянюк быў выслуханы сьледаваўцам, якому скардзіўся на набіцьцё і катаваньне ў сьледчай экспозытуры.

З прычыны пабіцьця Міхал Семянук патраціў здароўе, а іменна страціў слух на левае вуха і наагул зусім хворы.

На падставе вышэй пададзенага ніжэй падпісаныя пытаюцца п. Міністра:

Калі наканец перастануць катаваць беларускую люднасьць паліцэйскія ўлады і што п. Міністар мае загадаць у гэтай справе?

Варшава, верасень 1926 г.

Інтэрпэлянты.

# Інтэрпэляцыя №. 98

паслоў з Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады да п. Міністра Унутраных Спраў **у справе няпраўнага раскладу натуральнай павіннасьці Стаўпецкім Старастай.**

Пры выкананьні раскладу натуральнай павіннасьці на самаўрадавых дарогах Стаўпецкае стараства проці істнуючага права стасуе адваротны варунак, што да большай маемасьці — ці селянін у адносінах да абшарніка абцяжаны большым натуральным падаткам, чым абшарнік. На пратэст проці гэтага п. Стаўпецкі Стараста ніякіх аб'ясьненьняў не дае і прапанаваў паслу Сабалеўскаму падаць у гэтай справе інтэрпэляцыю.

На падставе вышэйшага ніжэй падпісаныя пытаюцца п. Міністра:

Ці склонны ён пачыніць пэўныя крокі, каб зрабіць праўны парадак у Стаўпецкім павеце, што да разлажэньня натуральнай павіннасьці?

Варшава. Верасень 1926 г.

Інтэрпэлянты,

# Інтэрпэляцыя № 99

п. Юр. Сабалеўскага з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Справядлівасьці **ў справе конфіскацыі кніжак для палітычных вязьняў у Бэндзю, зробленай карным дэпартамэнтам.**

Некалькі месяцаў таму назад выслаў для палітычных вязьняў у Горніцкай Дуброве на адрэс начальніка вастрогу пачку кніжак. Да гэтай пары ня маю афіцыяльнага паведамленьня, які лёс спаткаў маю пачку. Прыватна даведаўся, што пасылка сканфіскавана карным дэпартамэнтам.

Ніжэй падпісаныя пытаюцца п. Міністра:

1) Ці вестка гэта згодна з праўдай?

А калі так, то якая прычына гэткага загаду?

Варшава 16. XI 26 г.

Інтэрпэлянты.

Выдавец:
Соймавы Клюб Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады.

Друкарня Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22.